№№39–40
(3578–3579)

10 сакавіка 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

ЧУЛІ?

## Сукупны знешні доўг Беларусі павялічыўся амаль на 20%



Валавы знешні доўг Беларусі за 2011 год павялічыўся на 5 млрд 627,3 млн долараў, або на 19,8%, і на 1 студзеня 2012 года склаў 34 млрд 28,4 млн долараў. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Нацыянальным банку.

На пачатак года памер валавога знешняга доўгу дасягнуў 62,3% ВУП супраць 51,6% ВУП на 1 студзеня 2011 года.

У разліку на душу насельніцтва валавы знешні доўг на 1 студзеня 2012 года вырас на 600 долараў, ці на 20%, і склаў 3595 долараў супраць 2995 долараў на 1 студзеня 2011 года.

У структуры сукупнага знешняга доўгу знешні доўг органаў дзяржаўнага кіравання за 2011 год вырас на 22,8% да 12 млрд 351 мільёна.

Знешні доўг органаў грашова-крэдытнага рэгулявання на 1 студзеня 2012 года склаў 1 млрд 529,7 млн, знізіўшыся на 17,5%. Запазычанасць камерцыйных банкаў вырасла на 5,6% да 6 млрд 77,4 млн долараў ЗША. Знешні доўг іншых сектараў эканомікі склаў 13 млрд 64,3 млн долараў, павялічыўшыся за год на 31,8%. Прамыя інвестыцыі (міжфірменнае крэдытаванне) выраслі на 21,8% да 1 млрд 6,0 млн долараў на 1 студзеня 2012 года.

Паводле звестак Нацбанка, на абслугоўванне знешняга доўгу за мінулы год у Беларусі было накіравана 6 млрд 320,7 млн долараў, што склала 11,6% ВУП, ці 13,5% экспарту тавараў і паслуг. З іх 5 млрд 405,2 млн — выплаты па асноўным доўгу, а 915,5 млн — плацяжы па працэнтах.

Валавы знешні доўг Беларусі ўяўляе сабой нявыплачаную суму фактычных наяўных і неабумоўленых абавязацельстваў, якая патрабуе выплаты асноўнага доўгу і/або працэнтаў дэбіторам у наступны перыяд часу і ўяўляе сабой абавязацельствы рэзідэнтаў Беларусі перад нерэзідэнтамі.

Валавы знешні доўг складаецца з даўгоў органаў дзяржаўнага кіравання, органаў грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі.

**Аляксей АРЭШКА.**

МНЕНИЕ



*Михаил ПАСТУХОВ,*
*судья первого состава Конституционного Суда,*
*заслуженный юрист Республики Беларусь*

# Послание,
## или Сказ о законности в отдельно взятой стране

*18 января с.г. Конституционный Суд (далее — КС) принял ежегодное послание “О состоянии конституционной законности в Республике Беларусь в 2011 году”, которое с трудом уложилось на двух газетных полосах (см.: “Народная газета”, 31.01.2012). Что же поведали конституционные судьи  президенту и палатам парламента о нашей “законности”?*

### Все хорошо

Читаешь и не веришь. Читаешь и удивляешься. Оказывается, с конституционной законностью в прошедшем году все обстояло неплохо: ничего подозрительного во всех сферах государственной жизни судьи не усмотрели. Как будто и не было массовых арестов и осуждений участников Площади, кандидатов в президенты, погромов ряда организаций, сомнительных поправок в законы о массовых мероприятиях, общественных объединениях, об органах государственной безопасности.

Несмотря на мрачный фон в стране после очередной “победы” А.Лукашенко,  КС, как записано в послании, *“принимал решения, направленные на оказание положительного влияния на законодательную и правоприменительную практику, утверждение конституционной законности, развитие конституционной демократии, обеспечение верховенства права, защиту прав и свобод личности, прав и интересов организаций”.*

### Из чего исходил КС?

При оценке конституционной законности в стране КС исходил не только из своеобразно понимаемых им “конституционных ценностей”, но и из полномочий, предусмотренных президентским декретом №14 от 26 июня 2008 г. “О некоторых мерах по совершенствованию деятельности Конституционного Суда Республики Беларусь”.

То есть КС взял на “вооружение” неконституционные полномочия, которыми его наделил президент. Ведь по новой редакции Конституции поправки в разделы 1, 2, 4 и 8 могут вноситься только через референдум. Статья 116 Конституции, которая закрепляет полномочия КС, находится в разделе 2 “Президент, парламент, правительство, суд”. И, следовательно, президент не уполномочен дополнять своими актами полномочия государственных органов, в том числе КС.

Получается, что конституционные судьи, приняв “подарок” от президента в виде новых полномочий, стали на путь нарушения Конституции. И вся их работа по проверке конституционности законов (точнее, законопроектов), принимаемых парламентом, является неправомерной. Более того, следует признать, что, работая по президентскому декрету, суд вышел за рамки своих конституционных полномочий. При этом не может служить смягчающим обстоятельством то, что при оценке конституционности законов в порядке предварительного контроля КС исходил *“из принципов и норм Конституции, выявленного конституционно-правового смысла проверяемых норм, в том числе с учетом общепризнанных принципов и норм международного права*”.

### Правовые позиции КС

В 2011 г. КС рассмотрел на предмет конституционности 109 законов, принятых палатами парламента, но еще не подписанных президентом. Все эти законы КС “благословил” на применение, не усмотрев в них существенных изъянов. При этом суд руководствовался выведенными им “правовыми позициями”.

По мнению конституционных судей, правовые позиции выступают своеобразным ориентиром для нормотворческих органов при принятии новых правовых норм. Они позволяют устранять противоречия, возникающие в законодательстве и правоприменительной практике, способствуют формированию целостного конституционно-правового пространства и обеспечению конституционной законности.

Что же это за чудо-принципы, которые изобрели судьи, изучая принятые парламентом законы? Так, при проверке изменений и дополнений в Налоговый кодекс Республики Беларусь КС в решении от 26 декабря 2011 г. установил следующую правовую позицию. Ее суть заключается в том, что “если налоговые органы и их должностные лица при осуществлении предоставленных им полномочий допустили нарушение прав и законных интересов граждан, то граждане вправе реализовать свое конституционное право на обращение в государственные органы, на судебную защиту путем подачи соответствующей жалобы в порядке, предусмотренном статьями 85—87 Налогового кодекса”.

Вот такое “открытие” сделал КС, изучая поправки в налоговое законодательство. Согласно ему, граждане, недовольные действиями налоговых органов, могут жаловаться в вышестоящие органы или в суд. Но для этого достаточно почитать Конституцию, где такие права провозглашены. Проблема состоит в другом — как заставить государственные органы, и прежде всего суды, встать на защиту граждан, а не налоговых органов?

Еще одна “правовая позиция” была изложена КС в решении от 29 декабря 2011 г. при проверке конституционности Закона “О внесении изменений и дополнений в некоторые законы Республики Беларусь по вопросам административно-территориального устройства Республики Беларусь”. Так, суд отметил, что “основания, условия, порядок установления особого режима государственного управления и объявления административно-территориальных единиц закрытыми  *(то есть имеющими особый статус управления. — **Авт**.)*, а также полномочия соответствующих государственных органов в этой сфере должны определяться в законодательных актах”.

Да, позиция формально правильная, если под законодательными актами понимать законы. Но ведь по действующему законодательству (согласно ст.1 Закона “О нормативных правовых актах Республики Беларусь”) законодательными актами признаются не только законы, но и декреты, и указы Президента Республики Беларусь. Разве конституционные судьи не знают о такой расширительной трактовке законодательных актов в Беларуси? И почему бы им не выступить в защиту принципа верховенства Закона, осудив практику подмены законов президентскими актами?

В своем послании судьи сформулировали даже отдельные виды правовых позиций, например, адресованные непосредственно законодателю (*парламенту. — **Авт**.),* а также одновременно законодателю и правоприменителю *(органам управления, судам и правоохранительным органам. — **Авт**.).*

*(Окончание на 2-й стр.)*

З НАГОДЫ

*Ірына ХАЛІП:*

# «Чакаю...»

8 сакавіка Андрэю споўнілася 58 гадоў. Гэта ўжо другі яго дзень нараджэння, які мы правялі паасобку.

А раней ніколі не расставаліся ў нашы дні нараджэння. Праўда, я заўсёды марыла правесці вечар 8 сакавіка на канапе за праглядам слязлівых меладрам, якіх менавіта ў гэты дзень багата круцяць па ўсіх каналах, — каб ніякай гатоўкі з наступным мыццём посуду. Але ні разу не атрымлівалася...

Дзень нараджэння Андрэя Саннікава без гасцей — гэта ўтопія. Таму што ніхто з нашых сяброў не мог і ўявіць сабе, як гэта — не прыйсці да нас, не паспытаць чаго-небудзь неверагодна смачнага — альбо экзатычных страў з цяжкавымаўляльнымі назвамі і ігрэдыентамі, якія невядома адкуль узяліся ў нашых краях (гэта калі ля пліты вядзьмарыў Андрэй ), альбо проста бульбы з селядцом (мяжа маіх магчымасцяў). Але ўсе ведалі, што ў доме Саннікава заўсёды ўтульна, смачна і весела.

Я з усіх сіл спрабую захаваць той дом, які быў у нас да 19 снежня, каб Андрэй вярнуўся менавіта дадому, а не ў нейкае месца, якое за тэрмін яго адсутнасці змянілася і стала яму чужым.

Паліваю кветкі строга па інструкцыі, якую ён мне даслаў, але яны ўсё роўна вянуць.

Навучылася варыць супы-пюрэ, чаго не ўмела да 19 снежня, але няма каму пахваліцца дасягненнямі. Сябры, вядома, прыходзяць і ўхвальна прыцмокваюць, але муж аацаніць не можа, а шкада... Я навучылася адрозніваць абцугі ад кусачкаў і свердзелы ад разводных ключоў, але дома ад гэтага лепш не стала. Таму што наш дом — гэта Андрэй. Гэта яго любоў, яго дух, яго характар. Без яго мы з Данькам асірацелі, хоць і сябры, і проста знаёмыя, і нават незнаёмыя людзі дораць нам і цяпло, і клопат, і ўвагу. Але без Андрэя ў нашым жыцці быццам бы стварылася гіганцкая пустэча, якая засмоктвае ўсё. Мне кажуць: *“Вы павінны ганарыцца, ваш муж — герой”.* А я ўспамінаю брэхтаўскае: *“Няшчасная тая краіна, што мае патрэбу ў героях”.*

Андрэй заўсёды быў скупы на словы. Слова “кахаю” да 19 снежня ён сказаў мне двойчы: у 2003 годзе, пасля сваёй 15-сутачнай адсідкі, і ў 2007 годзе па тэлефоне, праз 10 хвілін пасля нараджэння Данькі. Цяпер ён піша гэтае слова ў кожным лісце. І падчас сустрэч з адвакатамі просіць перадаць, што кахае. А падчас некалькіх кароткіх спатканняў, што былі ў нас за гэты год, гаварыў пра гэта шмат разоў.



**Яны павінны быць разам...**

А я, наадварот, прызнавалася яму ў каханні заўсёды і пры любых абставінах. І сёння таксама хачу паўтарыць: “Я кахаю цябе, Андрэй. Ты зрабіў мяне самай шчаслівай жанчынай у свеце. Такіх, як ты, больш няма. І я зусім не шкадую, што разам з табой села ў турму. Можа, гэта і называецца — *“і ў горы, і ў радасці”?*

Твой мінулы дзень нараджэння я адзначала ўжо дома, а не ў турме, але пад аховай двух гэбэшных жлабоў. І не мела права нават пагаварыць з тваёй мамай. Гэтым разам мы з ёй усё ж такі былі ўжо разам. А Данька, як заўсёды, запатрабаваў уставіць свечкі ў торт, каб загасіць іх і загадаць жаданне. І зноў сказаў: *“Хачу, каб тата хутчэй вярнуўся. Я разумею, што ён ваюе, а туды, дзе вайна, не лятаюць самалёты. І ўсё-такі няхай вяртаецца”.*

Днямі Андрэй даслаў мне кароткі, як заўсёды, ліст. Ён ніколі не ўзурпаваў 8 сакавіка, хоць і ставіўся да яго іранічна і абавязкова ладзіў свята для нас — жонкі, маці, цешчы, сястры, жонак сваіх сяброў. Вось і ў гэтым лісце ён прасіў павіншаваць з 8 Сакавіка беларускіх жанчын. Ён напісаў, што змог лішні раз пераканацца: беларускія жанчыны — самыя разумныя, добрыя, прыгожыя, высакародныя. І яшчэ ён прасіў павіншаваць беларускіх мужчын, таму што ім пашанцавала сустрэць такіх жанчын.

Але для мяне 8 сакавіка — гэта назаўжды дзень нараджэння Андрэя. І таму я зноў кажу: *“З днём нараджэння, каханы! Я кахаю цябе. І чакаю”.*

Памятаю, як год таму, пасля дня нараджэння Данькі, калі нашы сябры прынеслі паветраны шарык з надпісам “Тата, вярніся!” і сын запускаў яго ў неба, Андрэй, пачуўшы пра гэта, падчас спаткання на Валадарцы сказаў: *“Я адчуў сябе нейкім аліментшчыкам”.* Так што цяпер я не кажу пафаснае *“Вяртайся хутчэй!”.* Проста чакаю.

КРЫМІНАЛ

## *Уладзіслаў Кацарэнка і Віктар Прыёмка — за кратамі*

*Некалькі дзён таму праваахоўнікі скруцілі на працоўным месцы старшыню назіральнага савета “Тэхнабанка” **Уладзіслава Кацарэнку.** Яго падазраюць у парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса — саўдзеле ў злачынстве і дачыненні да ўхілення ад уплаты падаткаў.*

Следчыя лічаць, што падазроны дапамагаў службовым асобам шэрагу суб’ектаў гаспадарання пазбягаць уплаты падаткаў. Калі гэта пацвердзіцца ў судзе, то банкіру пагражае да пяці гадоў абмежавання волі альбо зняволенне на тэрмін ад трох да сямі гадоў. Пры гэтым у яго могуць канфіскаваць маёмасць.

Уладзіслаў Кацарэнка з’яўляецца адным з асноўных акцыянераў “Тэхнабанка”, у якім амаль 64% акцый належаць фізічным асобам. У ліку канчатковых бенефіцыярных уласнікаў банка ёсць таксама прозвішчы яго маці Алены Кацарэнка, Ігара Курача і ірландскай кампаніі “Флітвуд файнэнс”.

Днямі стала вядома і аб затрыманні дырэктара сталічнага завода “Агат-электрамеханічны завод” **Віктара Прыёмкі** і аднаго з яго намеснікаў. Згодна з інфармацыяй Следчага камітэта, затрыманне адбылося яшчэ 22 лютага. Пакуль невядома, у чым падазраюць кіраўнікоў прадпрыемства, якое сёння знаходзіцца ў падпарадкаванні Дзяржаўнага ваенна-прамысловага камітэта.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## *Ференц КОНТРА: «Мы ожидали»*

*Отъезжая домой, представители стран ЕС в Минске в последние дни предпочитали никаких комментариев не давать. Однако, уезжая, посол Венгрии в Минске **Ференц КОНТРА** ответил на несколько вопросов “Народной Воли”.*

**— Послы уезжают из Минска временно, для консультаций. Но эти консультации могут затянуться?**

— Могут. И на месяц, и на два, и на три. Все будет зависеть от белорусских властей. Посчитают ли они, что такой шаг не служит интересам страны, и предпримут адекватные действия, задумаются, что важнее: 15—20 политзаключенных в тюрьме или нормальные отношения с Западом. Выбор за белорусской стороной.

**— На ваш взгляд, проявление такой солидарности — это правильный шаг или, может быть, поспешный?**

— В условиях, когда в стране пребывания не обеспечиваются условия для нормальной работы послов, это правильное решение. Это наша давняя позиция: нападение на одно посольство Евросоюза или какой-то недружественный шаг по отношению к одной дипмиссии — это недружественный шаг по отношению ко всем.

Вы знаете, что в последние годы были разные недружественные шаги, мы это переживали, неслучайно время от времени нам приходилось заявлять протесты по этому поводу. Когда Венгрия председательствовала в ЕС, мне приходилось от имени всех послов стран ЕС ходить в МИД Беларуси и выражать протест по поводу разных шагов, предпринимаемых по отношению к дипломатам стран ЕС. Я встречался с Воронецким, другими чиновниками МИД.

**— Господин посол, вы уже четыре года работаете в Беларуси. Для вас лично то, что произошло в последние дни, было сенсацией или ожидаемым развитием событий?**

— Абсолютно ожидаемым. Мы давно знали, что белорусские власти могут на это пойти. Я читал книгу Валерия Карбалевича “Александр Лукашенко. Политический портрет”, где черным по белому написано, что белорусский лидер любит конфронтацию, он чувствует себя как рыба в воде в подобной ситуации.

**— На ваш взгляд, как дальше будут развиваться отношения Беларусь—ЕС?**

— Я очень надеюсь, что официальный Минск подумает о том, что эта конфронтация не нужна, что дальнейшая серьезная самоизоляция ни к чему не приведет. Я надеюсь, что Беларусь сделает такие шаги, которые позволят нормализовать отношения. Прежде всего должны быть освобождены и реабилитированы все политзаключенные. Тогда можно говорить о том, чтобы со стороны ЕС не было таких решений. По крайней мере, мы в этом заинтересованы.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



## Ко дню 8 Марта Лидию Ермошину наградили «Золотым тараканом»

В конкурсе, проводившемся феминистской инициативной группой “Крапіва беларуская”, в номинации “Женщины, проявившие себя в дискриминации сестер по полу” победила глава Центризбиркома РБ Лидия Ермошина.

Антипремия была присуждена главе белорусской ЦИК за то, что она назвала молодых белорусок-активисток *“отвратительными матерями, скверными женами, недобрыми, немилосердными людьми”.* По мнению Лидии Ермошиной, *“надо их быстрее призывать к борщу, детям, книгам и так далее...”.*

Что напоминает известный принцип “трех “К””: Kinder, Kuche, Kirche (читается “*киндер, кюхе, кирхе*”, рус. — дети, кухня, церковь) — немецкое устойчивое выражение, описывающее основные представления о социальной роли женщины в германской консервативной системе ценностей. Хотя лозунг был известен до прихода к власти нацистов, он часто ассоциируется с эпохой Третьего рейха. В сентябре 1934 года, выступая перед Женской национал-социалистической организацией, Гитлер заявил, что *“мир немецкой женщины — это ее муж, ее семья, ее дети и ее дом”.*

В своем предпраздничном интервью корреспонденту БЕЛТА Лидия Ермошина еще раз подтвердила, что, по ее мнению, *“основное предназначение женщины — быть хозяйкой, хранительницей очага”.* И снова обрушилась на представительниц женского пола, которые вышли на площадь 19 декабря 2010 года.

Возможно, это неосознанный прием психологической защиты? Лидию Михайловну, например, могло (всякого нормального человека должно было) шокировать зрелище жестокого избиения молодых девушек сотрудниками милиции на площади, кадры которого обошли весь мир. Пытаясь вытеснить неприятное воспоминание, она и пытается нарисовать для себя образ злодеек, бросивших семью на произвол судьбы, чтобы *“болтаться где-то с мужиками”.* И других в нем убедить. По всей видимости, вытеснить не удается, если даже спустя год она с такой неадекватной злостью вспоминает о них.

Что касается собственно премии, каковой является “Крапивная ветвь”, ее получила заместитель главного редактора “Народной Воли” Марина Коктыш. В номинации “Женщина, меняющая общество”. За то, что “дала отпор диктатуре” .

Об остальных призерах можно прочесть на страничке феминистской группы в лайвджорнал.

**Дмитрий ГАЛКО.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 САКАВІКА 2012 г.

МНЕНИЕ

# Послание,
## или Сказ о законности в отдельно взятой стране

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

В целях выявления конституционно-правового смысла норм проверяемых законов КС дал свое понимание отдельных правовых положений. Так, в решении от 28 октября 2011 г., которое касалось проверки Закона "О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь "О массовых мероприятиях в Республике Беларусь", судьи согласились с нормой Закона, что пикетированием признается совместное массовое присутствие граждан в заранее определенном общественном месте, в установленное время для совершения заранее определенного деяния, организованное (в том числе через глобальную компьютерную сеть Интернет или иные информационные сети) для публичного выражения своих общественно-политических интересов или протеста.

Трудно понять правовые позиции КС, а еще труднее представить их пользу для нормотворчества и правоприменительной практики.

### Принцип «пропорционального ограничения прав и свобод личности»

Да, именно такой принцип изобрели конституционные судьи, оценивая конституционность явно неконституционных законов.

Так, по поводу ограничений, связанных со свободой собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирования, КС в решении от 28 октября 2011 г. указал, что *"предусматриваемые проверяемым Законом ограничения прав и свобод личности выступают средством правовой защиты общественного порядка и общественной безопасности, нравственности, здоровья населения, прав и свобод других лиц".*

Но позвольте, уважаемые судьи! Разве нарушается общественный порядок или подвергается угрозе общественная безопасность, когда собираются люди для выражения своей позиции? Статья 35 Конституции гарантирует (!) гражданам право на мирные манифестации. К их проведению предъявляется только одно условие — соблюдение общественного порядка и прав других граждан. Если мирная акция не нарушает порядок, не мешает другим людям заниматься своими делами, то она правомерна. Собравшихся с мирными целями людей нельзя разгонять, бить, хватать. Такие действия представителей власти и людей "в штатском" должны расцениваться как противоправное покушение на охраняемые Конституцией права и свободы граждан. Поэтому говорить о каком-то "пропорциональном ограничении прав и свобод личности" неуместно. Данная позиция суда противоречит статье 21 Конституции, согласно которой обеспечение прав и свобод граждан Республики Беларусь является высшей целью государства.

Принцип "пропорциональности" не может быть применим и к запретам на деятельность общественных объединений, союзов, "направленную на содействие предоставлению иностранными государствами гражданам Республики Беларусь льгот и преимуществ в связи с политическими, религиозными взглядами или национальной принадлежностью в нарушение законодательства Республики Беларусь" *(речь идет о поправках в Закон "Об общественных объединениях". — **Авт.**).*

КС, признавая допустимыми эти запреты, отметил, что *"указанные ограничения служат целям обеспечения равных условий для деятельности всех общественных объединений и союзов, недопущению использования свободы объединений в ущерб национальному суверенитету".*

Подчеркнем: "в ущерб национальному суверенитету". С такой аргументацией нельзя согласиться. Во-первых, в Законе "Об общественных объединениях" нет упоминания об угрозе национальному суверенитету в деятельности общественной организации *(слишком глобальная угроза, создать которую под силу разве что высшим государственным органам и должностным лицам. — **Авт.**).* Во-вторых, Конституция (ст.30) и Закон (ст.5) обеспечивают свободу объединений и невмешательство государства в деятельность объединений.

Поэтому запреты на получение общественными объединениями зарубежной помощи надо признать неконституционными. И задача КС как государственного органа состоит в том, чтобы защищать права объединений граждан, а не обосновывать правомерность разного рода препятствий в их законной деятельности.

КС "закрыл глаза" и на ряд других неконституционных новаций в законодательстве, например, о запрете пожертвований в избирательные фонды кандидатов в депутаты (в президенты), получавшим иностранную безвозмездную помощь, а также о запрете пожертвований для организаций, зарегистрированных в установленном порядке менее чем за один год до дня внесения пожертвования.

В своем послании КС не стал упоминать о сомнительных с точки зрения конституционности поправках в Закон "Об органах государственной безопасности Республики Беларусь". В частности, речь идет о предоставлении сотрудникам КГБ права "входить беспрепятственно, при необходимости с повреждением запирающих устройств и других предметов, в любое время суток в жилые помещения или иные законные владения физических лиц"; "изымать имущество и предметы, запрещенные к обороту на территории Республики Беларусь, документы, имеющие признаки подделки, информационную продукцию, содержащую призывы к экстремистской деятельности либо пропагандирующую такую деятельность, и принимать по ним решения в соответствии с законодательством Республики Беларусь" *(на каком основании изымать? Как определить экстремистский характер призывов? — **Авт.**);* "хранить, носить, применять и использовать оружие, применять физическую силу, специальные средства, боевую и специальную технику в случае и порядке, предусмотренных настоящим Законом и иными законодательными актами Республики Беларусь" *(зачем "бойцам невидимого фронта" носить с собой оружие? Зачем им применять физическую силу, специальные средства? Почему в случаях, предусмотренных иными законодательными актами? — **Авт.**).*

В то же время в послании КС содержится правильное утверждение о том, что "любые ограничения конституционных прав и свобод должны быть не только юридически допустимыми, социально оправданными, но и отвечать требованиям справедливости, являться необходимыми и соразмерными конституционно признаваемым целям таких ограничений".

Однако возникает вопрос: почему конституционные судьи сами не пользуются предложенным эталоном оценки конституционности законов и почему они отдают предпочтение не защите прав и свобод граждан, а интересам национальной безопасности, общественного порядка, защите нравственности, здоровья населения, прав и свобод других лиц?

### Позиция КС по Закону Республики Польша «О карте поляка»

7 апреля 2011 г. КС по предложению депутатов Палаты представителей изложил свою позицию по Закону Республики Польша "О карте поляка". Суд исходил из того, что субъектами отношений, регулируемых Законом, признавались также граждане Республики Беларусь, которым свое государство гарантирует защиту и покровительство как на территории Беларуси, так и за ее пределами. В итоге рассмотрения дела КС пришел к выводу, что некоторые положения Закона не согласуются с такими общепризнанными принципами международного права, как принцип суверенного равенства государств и принцип невмешательства в дела, входящие во внутреннюю компетенцию другого государства, то есть Республики Беларусь.

Получается, что КС вроде бы защитил белорусских поляков от тлетворного влияния польского государства и остановил их выезд из Беларуси. По сути, этим лицам дали понять, что не стоит получать карту поляка и пользоваться теми льготами и преимуществами, которые они могли бы иметь. Тем самым своим решением КС подвел правовую базу для принятия законодательных актов, по которым граждан польского происхождения заставляют отказаться от своих законных прав.

### Уполномоченные органы не обращаются, а граждане не могут...

КС вынужден снова констатировать, что соответствующих предложений от уполномоченных субъектов (президента, правительства, палат парламента, высших судов) в 2011 г. не поступило.

Здесь важна не столько констатация факта, сколько его оценка. Почему указанные субъекты "игнорируют" КС? Почему они не требуют проверить на предмет конституционности нормативные акты, принятые другими органами, а том числе президентские декреты, постановления правительства, акты министерств и ведомств?

Понять руководителей этих субъектов можно: не хочется затевать "ссору" с органами, с которыми они находятся в одной связке. Результат инициативы может оказаться весьма печальным, вплоть до отстранения от должности. Поэтому лучше не замечать "изъянов" в правотворческой деятельности государственного аппарата.

Вот и приходится КС "работать" с жалобами граждан, которые хотят добиться восстановления своих нарушенных прав. Таких жалоб (обращений) поступило в суд 837.

КС не наделен правом рассматривать обращения граждан и организаций. В Законе также не предусмотрена процедура рассмотрения такого рода дел. По своей инициативе суд определил такую процедуру на уровне своего Регламента. Это позволяет ему принимать к рассмотрению жалобы (обращения) и выносить по ним решения. Чаще всего они касаются вопросов применения административного, уголовного, уголовно-процессуального, уголовно-исполнительного, трудового, пенсионного, гражданско-процессуального законодательства.

Печально, что граждане Республики Беларусь, в отличие от граждан других европейских стран, не имеют права обращаться непосредственно в КС. Еще печальнее то, что уполномоченные субъекты, к которым граждане обращаются с просьбой поставить их вопрос на рассмотрение КС, отказывают в этих просьбах.

По мнению суда, это "свидетельствует об определенном недопонимании роли и значения конституционного контроля". Представляется, что причины инертности уполномоченных субъектов совсем иные: не желают государственные органы заниматься какими-то жалобами граждан и тем самым осложнять отношения с другими органами.

КС, не имея смелости принципиально оценить состояние конституционной законности в стране, "отписывается" юридическими формулировками о том, какой должна быть эта законность. Для иллюстрации приведем одну из них: *"Реализация принципа законности предполагает необходимость соблюдения законов не только физическими и юридическими лицами, но и органами государственной власти, должностными и иными лицами, которые осуществляют государственные функции и должны действовать в пределах предоставленных прав и возложенных на них обязанностей. При этом должно быть исключено формальное применение закона, не соответствующее духу права и справедливости".*

Правильно рассуждают конституционные судьи о законности. Вот только почему они поют оду придуманному ими принципу "пропорциональности" при установлении запретов и ограничений? И почему не хотят отстаивать принцип верховенства Конституции и законов в деятельности государственных органов, как это требуется в демократическом правовом государстве?

***

Можно констатировать: КС "рисует" идиллическую картину состояния конституционной законности в стране. Складывается впечатление, что конституционные судьи смотрят на нашу действительность сквозь розовые очки и не видят (или не хотят видеть) фактов нарушения основных прав человека, отсутствия эффективных средств защиты этих прав, а также своей собственной беспомощности.

Для улучшения ситуации в сфере законности надо осуществить серьезные преобразования всей политической системы и главное — восстановить попранные принципы демократического правового государства: разделение властей, верховенство закона, соблюдение прав человека. Только после этого изменится отношение к человеку как высшей ценности государства и общества.

ЧУЛІ?

## *Нязменны Рубінаў*

*Аляксандр Лукашэнка ўказам зацвердзіў новы склад камітэта па дзяржаўных прэміях Беларусі.*

Склад прэзідыума камітэта абноўлены на 60% і складаецца з сямі чалавек. Аднак прэзідыум зноў узначаліў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу **Анатоль Рубінаў.**

Кіраўніком падкамітэта па дзяржаўных прэміях Беларусі ў галіне навукі і тэхнікі прызначаны старшыня прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Анатоль Русецкі. Склад падкамітэта абноўлены на 50% і ўключае 44 чалавекі.

Падкамітэт па дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ўзначаліў генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Уладзімір Грыдзюшка. Склад падкамітэта абноўлены на 57% і ўключае 33 чалавекі.

## *Міністэрства эканомікі прагназуе...*

Паводле прагнозу Мінэканомікі, намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата па рэспубліцы ў 2012 годзе складзе 3,216—3,227 млн, што на 71,4—72% перасягне ўзровень 2011 года. У тым ліку ў снежні 2012 года яна складзе 4,05—4,063 мільёна.

Пры гэтым намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата работнікаў бюджэтных арганізацый вырасце ў 2012 годзе на 69,8—70% да 2,714—2,718 мільёна рублёў.

РЭГІЁНЫ

## *«Славянскі базар» пройдзе з 12 па 18 ліпеня*

*У Віцебску пачалі рыхтавацца да традыцыйнага фестывалю культуры і мастацтваў.*

На чале арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы да правядзення фестывалю стаў старшыня гарвыканкама **Віктар Мікалайкін**.

## *Эколагі супраць дрэў*

*Гродзенскія прыродаахоўнікі просяць улады ліквідаваць усе хворыя каштаны.*

Гэта трэба зрабіць для таго, каб ратаваць здаровыя дрэвы, якія не заражаны мініруючай моллю.

Дрэвы, што хварэюць на мініруючую моль, губляюць лістоту на пачатку чэрвеня. Праз некалькі гадоў аслабленае дрэва гіне. Каб прыпыніць распаўсюджванне насякомых, трэба высекчы хворыя дрэвы.

## *Найстарэйшай — 107 гадоў*

*Сярод 65 доўгажыхароў Гомельскай вобласці 58 жанчын.*

Афіцыйна доўгажыхарамі прызнаюцца тыя беларусы, што маюць 100 і больш гадоў. Самай старой жыхаркай вобласці з'яўляецца 107-гадовая бабуля з Гомеля.

## *Хто ў міліцыі самы прыгожы?*

*29 сакавіка ў Магілёве назавуць самую прыгожую супрацоўніцу міліцыі.*

У шоу "Лэдзі ў пагонах" удзельнічаюць 9 прыгажунь. Удзельніцы будуць спяваць, танцаваць і дэманстраваць навыкі стральбы з агнястрэльнай зброі. У традыцыйных для конкурсаў прыгажосці мініспаборніцтвах удзельніцы раскажуць аб сабе, на хуткасць разбяруць аўтамат, арыгінальна прадставяць прыгатаваную сваімі рукамі страву.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ШОУ-БІЗНЕС

## *Аншлаг Міхайлава ў Мінску*

*Заўтра самы дарагі расійскі спявак дасць канцэрт у "Мінск-Арэне".*

Дзяржаўтаінспекцыя Мінска рэкамендуе гледачам канцэрта Стаса Міхайлава скарыстацца паслугамі маршрутных транспартных сродкаў, таму што колькасць гледачоў чакаецца велізарная і паркавачных месцаў можа не хапіць. Хаця ДАІ абяцае арганізаваць дадатковыя месцы для паркоўкі машын.

Каб пазбегнуць затору аўтамабіляў, ДАІ Мінска рэкамендуе "ўсім жадаючым прыбываць на мерапрыемства загадзя".

Нагадаем, што самы танны квіток на канцэрт Стаса Міхайлава каштуе 263 тысячы рублёў, самы дарагі — 1 мільён 503 тысячы.

ПА ЧУТКАХ І...

# Гульня нерваў

*Як толькі стала зразумела, што Еўропа не сцерпіць дэмаршу Мінска і што ў сваіх кроках можа пайсці далей — да пашырэння санкцый, пачалі распаўзацца чуткі, што беларуская ўлада гатова зрабіць невыязнымі з краіны прадстаўнікоў апазіцыі.*

Так, інтэрнэт-партал tut.by, спасылаючыся на крыніцу, блізкую да кіраўніцтва краіны, паведаміў, што ў спісе нібыта значыцца 108 прозвішчаў, у тым ліку, напрыклад, вядомы палітык Станіслаў Шушкевіч, кіраўнік Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, кіраўнік Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанна Літвіна і іншыя.

Прэс-сакратар беларускага МЗС расцаніў гэтую інфармацыю як банальныя чуткі, якія не патрабуюць каментарыяў. *"Я думаю, што ўсе чуткі, якія вы маеце па колькасцях і па персаналіях, — гэта не больш чым чуткі",* — заявіў Андрэй Савіных.

У Дэпартаменце па грамадзянстве і міграцыі МУС сцвярджаюць, што ўсё павінна быць і будзе па законе. *"Усе падставы выкладзены ў законе для абмежавання права на выезд. Калі не будзе рашэння суда, не будзе крымінальнага права, то якое можа быць абмежаванне на выезд?"* — патлумачыў журналістам начальнік дэпартамента Аляксей Бягун.

Праваабаронцы таксама заяўляюць, што з'яўленне такога спісу будзе парушэннем закону. *"Ёсць законы, дзе прапісаны падставы, па якіх чалавек не можа выехаць за мяжу. Напрыклад, калі я маю запазычанасць па выплатах або з'яўляюся ўладальнікам абсалютна сакрэтнай інфармацыі, на працягу 5 гадоў мяне могуць не выпускаць. Без законных падстаў ніхто не мае права не выпусціць чалавека з краіны. А калі дапоўняць закон і прымуць такое рашэнне на заканадаўчым узроўні, то гэта будзе нарматыўна-прававы акт, які супярэчыць нормам Канстытуцыі",* — лічыць праваабаронца Гары Паганяйла.



ТЫМ ЧАСАМ

## *Лябедзьку і Дабравольскага не прапусцілі праз мяжу*

7 сакавіка лідар АГП накіроўваўся ў Літву праз памежны пераход "Каменны Лог". У Вільнюсе ў яго былі запланаваны сустрэчы ў парламенце, МЗС Літвы і мэрыі Вільнюса. Палітыка не прапусцілі праз мяжу, патлумачыўшы, што Лябедзька ёсць у камп'ютары, у нейкім спісе.

*— Памежнік уручыў мне кавалачак паперкі з трыма штампамі "АНУЛЯВАНА" і прыпіскай ад рукі "вяртанне ў РБ",* — распавёў у сваім блогу палітык. — *У перакладзе гэта азначае наступнае. Спіс палітычных апанентаў Аляксандра Лукашэнкі, якім забаронены выезд з краіны і аб якім дыскутавалі ўчора, з сённяшняга дня стаў рэальнасцю. Я першы, але, здаецца, далёка не апошні.*

У той жа дзень увечары праз мяжу не прапусцілі яшчэ аднаго сябру партыі АГП — Аляксандра Дабравольскага.

...ПА ЗАКОНЕ

## *У якіх выпадках абмежавана права грамадзяніна на выезд*

**Артыкул 7 Закона "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь". Нагоды для часовага абмежавання правоў грамадзян на выезд з Рэспублікі Беларусь.**

Права грамадзяніна на выезд з Рэспублікі Беларусь можа быць абмежавана, калі:

**1.**Ён мае інфармацыю аб звестках, якія складаюць дзяржаўную тайну, — да заканчэння тэрміну, які ўстаноўлены ў дамове аб допуску да дзяржаўных сакрэтаў.

**2.**Ён з'яўляецца падазроным альбо абвінавачаным па крымінальнай справе, — на тэрмін, які ўстаноўлены органам крымінальнага пераследу, але не больш як да заканчэння крымінальнага пераследу альбо да ўступлення прысуду ў законную сілу.

**3.**Ён асуджаны за здзяйсненне злачынства, за выключэннем асуджаных без прызначэння пакарання альбо да пакарання ў выглядзе пазбаўлення права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю, — на тэрмін, які ўстаноўлены органам ці ўстановай, якія выконваюць пакаранне альбо іншыя меры крымінальнай адказнасці, але не больш як да адбыцця пакарання альбо вызвалення ад пакарання ці да заканчэння тэрміну адтэрміноўкі выканання пакарання ці выпрабавальнага тэрміну.

**4.**За ім устаноўлены прэвентыўны нагляд, — да заканчэння прэвентыўнага нагляду.

**5.**Ён не выконвае без важкіх прычын маёмасныя, падатковыя ці іншыя абавязацельствы перад Рэспублікай Беларусь, яе адміністратыўна-тэрытарыяльнымі адзінкамі, фізічнымі і юрыдычнымі асобамі, якія ўстаноўлены ўступіўшымі ў законную сілу судовымі пастановамі ці выканаўчымі дакументамі, — на тэрмін, які ўстаноўлены судом, але не больш як да выканання абавязацельстваў.

**6.**Яму прад'яўлены грамадзянскі іск у судзе, — на тэрмін, які ўстаноўлены судом, але не больш як да заканчэння вытворчасці па справе.

**7.**У яго ёсць запазычанасць па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве) ці з'яўляецца зацікаўленай асобай у адносінах да таго, хто мае запазычанасць, — юрыдычнай асобы, — з моманту адкрыцця конкурснай вытворчасці на тэрмін, які ўстаноўлены судом, але не больш як да заканчэння вытворчасці па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве).

**8.**Ён ухіляецца ад яўкі на мерапрыемствы па выкліку на ваенную службу, службу ў рэзерве, — да яўкі на мерапрыемствы па выкліку на ваенную службу, службу ў рэзерве.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# У Брэсцкім раёне забараняюць усё, што можа хоць неяк ускалыхнуць грамадства

У Брэсцкім раёне ўлады не дазволілі пікеты супраць збяднення насельніцтва, якія на гэты раз планавалася правесці ў вёсках. Прычыны адмовы ва ўсіх выпадках абсалютна розныя, але падобна на тое, што незадаволеным беларусам проста нельга дэманстраваць сваё стаўленне да таго, што адбываецца.

*"Ну не верыць народ Беларускаму тэлебачанню! Людзі ў магазіны ходзяць, бачаць, як кошты растуць, як заробкі абясцэньваюцца. Бадай, адзіны законны сродак, каб прыцягнуць увагу ўлады да ўсеагульнай галечы, — гэта пікетаванне,* — гаворыць старшыня Брэсцкай раённай арганізацыі партыі "Справядлівы свет" Анатоль Новік. — *Праўда, за тры гады ніводны з такіх пікетаў дазволены не быў".*

Апошняя спроба прыцягнуць увагу да рэзкага зніжэння ўзроўню жыцця ў Брэсцкім рэгіёне была зроблена на пачатку месяца. "Згодна з законам, заяўкі на правядзенне пікетаў падаюцца ў мясцовыя органы ўлады за 15 дзён да правядзення мерапрыемства, — працягвае Анатоль Новік. — Меркавалася, што пікеты пройдуць 18 лютага. Мы выбралі тры населеныя пункты — вёскі Страдзеч і Знаменка і пасёлак Дамачава ў Брэсцкім раёне. Як і мае быць, накіравалі факсы з заяўкай на правядзенне пікетавання ў пасялковыя саветы яшчэ 3 лютага. Потым нашы актывісты наведалі пасялковыя саветы, у кампетэнцыі якіх вырашэнне гэтых пытанняў, упэўніліся, што заявы нашы зарэгістраваныя. І сталі чакаць..."

Адказы прыйшлі. Ва ўсіх выпадках розныя. Але ніводны пікет дазволены так і не быў. *"Прычыны адмовы сапраўды анекдатычныя,* — гаворыць Анатоль Новік. — *Правядзенне пікета ў вёсцы Знаменка было забаронена таму, што заяўнік не пазначыў дату свайго нараджэння. З пасялковага савета, у які ўваходзіць вёска Страдзеч, прыйшоў увогуле маразматычны адказ: нам рэкамендавалі спачатку заключыць дамову з міліцыяй на ахову парадку пры правядзенні пікета, хаця праваахоўнікі ў сваю чаргу адказваюць, што пакуль няма дазволу на пікет, то ім ахоўваць няма чаго, няма прадмета дамовы...*

*Што тычыцца Дамачава, дык там фармальнай падставай для адмовы стала тое, што быццам бы тэрміны падачы заяўкі былі няправільнымі. Заўважу, што на бланку, які быў пададзены, стаіць дата 2 лютага, а зарэгістравана заява была 3 лютага — якраз за 15 дзён да пікета. Аднак і ў тым, што заяўка была афармлена на дзень раней, чыноўнікі ўгледзелі парушэнне..."*

Анатоль Новік лічыць, што чыноўнікі наўмысна забараняюць пікеты сацыяльна-эканамічнай скіраванасці. *"Я на сто працэнтаў упэўнены, што чыноўнікі на месцах кіруюцца правілам: забараняць усё, што можа хоць неяк ускалыхнуць грамадства,* — гаворыць ён. — *Наступным разам не здзіўлюся, калі адмова ў правядзенні пікета будзе абгрунтавана тым, што заява занесена ў сельсавет не з таго ўваходу... Чыноўнікам выгадна, каб людзі сядзелі як мышы пад венікам і маўчалі, каб не пратэставалі супраць галечы і жабрацтва вялікай колькасці людзей. Забарона пратэстаў — гэта такі прымус да шчасця. І ён сведчыць толькі пра адно: улада зараз знаходзіцца ў апазіцыі да народа".*

Нагадаем, што Канстытуцыя Беларусі гарантуе свабоду пікетаў, сходаў і мітынгаў. Таму, нягледзячы на адмовы ў правядзенні пікетаў, сябры Брэсцкай абласной арганізацыі партыі "Справядлівы свет" будуць дамагацца рэалізацыі свайго канстытуцыйнага права аб свабодзе пікетавання. Плануецца, што ў сакавіку ва ўладныя структуры Брэстчыны будзе перададзена яшчэ 15 заявак на пікетаванне.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРЭДЫТЫ

## МВФ сфармуляваў умовы

Міжнародны валютны фонд па выніках працы сваёй агляднай місіі ў Мінску сфармуляваў умовы разгляду пытання аб магчымасці фінансавай падтрымкі Беларусі.

Як вядома, беларускія ўлады накіравалі ў МВФ хадайніцтва, у якім прапанавалі выдзеліць новы крэдыт, каб рэфінансаваць наяўную запазычанасць.

Кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Крыс Джарвіс адзначыў, што вызначэнне аб'ёмаў фінансавання, якія могуць спатрэбіцца краіне, — адзін з апошніх крокаў. Першы крок — *"вызначэнне неабходнай эканамічнай палітыкі і ўпэўненасць у поўнай яе падтрымцы".*

*"Мы павінны быць упэўнены, што людзі і структуры, якія адказваюць за прыняцце рашэнняў на самым высокім узроўні, падтрымліваюць прапанаваныя меры эканамічнай палітыкі",* — падкрэсліў кіраўнік місіі МВФ у Беларусі.

Каментуючы, як можа паўплываць абвастрэнне адносін Беларусі з Еўрасаюзам на рашэнне МВФ аб выдзяленні крэдыту, Джарвіс адзначыў: *"Мы не можам прадбачыць, што будзе ўплываць на рашэнне і паводзіны краін — членаў МВФ. Са свайго боку, мы хацелі б аказаць падтрымку Нацыянальнаму банку і ўраду ў распрацоўцы настолькі надзейнай і абгрунтаванай эканамічнай палітыкі, якая была б падтрымана ўсімі краінамі — членамі МВФ".*

### ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

Запазычанасць Беларусі перад МВФ цяпер складае 3,8 млрд долараў. У 2012 годзе Беларусь павінна накіраваць на пагашэнне знешняга дзярждоўгу больш за 1,6 млрд долараў. У наступныя два гады (2013—2014) штогадовыя плацяжы па пагашэнні знешняга дзярждоўгу ўсім крэдыторам перавысяць 3 млрд долараў.

ЧУЛІ?

## Мінск папоўніцца новым гіпермаркетам

Кампанія "Тытунь-Інвест" пачынае будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу "Карона-Уручча", які размесціцца на вольным участку, прылеглым да МКАД, за архітэктурным факультэтам БНТУ.

Як паведамляе агенцтва "Мінск-Навіны", у комплексе размесціцца гіпермаркет з уласнай вытворчасцю і рэстаран хуткага харчавання. Некалькі ўзроўняў зоймуць салоны бытавой тэхнікі, электронікі і прамысловых тавараў.

Не абыдзецца і без забаўляльных аб'ектаў, якія зоймуць цэлы паверх: тут запланаваны боўлінг з кафэ, мультыплекс, канцэртна-танцавальны клуб, казіно-більярдная і нават кававы двор і лядовая пляцоўка. Побач з "Каронай" размесціцца шматузроўневая стаянка. Праз МКАД ад аб'екта да жылога раёна Уручча будзе перакінута пешаходная вісячая галерэя. Завяршыць будаўніцтва плануецца ў 2014 годзе.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Дыямент у кароне...

***(Працяг. Пачатак у №№31—32.)***

## Пані Эльжбета перамагла ўсіх

Летась, наведваючы Нясвіж па журналісцкіх справах, сустрэў там... княгіню Эльжбету Радзівіл-Тамашэўскую — дачку таго самага Альбрэхта Радзівіла, які стаўся было перадапошнім уладаром Нясвіжскага замка. Абсалютна, можна сказаць, выпадковая сустрэча: канечне — шанаванне пані, фота "на памяць" і, зразумела, пытанне (як жа без яго?!): ці падабаецца спадарыні Эльжбеце ўбачанае — тое, што сталася ў выніку рэстаўрацыі? Ці ёсцека падабенства ў інтэр'ерах, якія памятаюцца ёй з маленства? Сядаючы ў стылізаваную карэту-параконку, 91-гадовая пані з характэрнай для яе прастацю, не дужа ўласцівай для большасці арыстакратаў, замовіла, што "магло быць лепей, але ж ёсць спадзяванне, што ў выніку так і будзе"... Дзеля праўды мушу прызнаць: на той момант не было пад сценамі замка файнага "выглёнду", бо земляры чысцілі абвадныя каналы, работныя людзі ўмацоўвалі валы пад сценамі замка, мосцячы паверх малады дзёран. Падалося, аднак, што княгіня не столькі расчаравана ўбачаным, колькі ўсцешана: рэстаўратары — хоць і ўшчувалі іх навукоўцы за розныя агрэхі — усё-такі ладна паспелі зрабіць, прыкметна надалі замку тую вабнасць, якая была раней... У вачах княгіні, не па ўзросце ясных і прасветленых, не чыталася самотнасць: можа, ад усведамлення, што яе родавае гняздо ажывае і становіцца ранейшым, а можа, проста вандроўка ў Нясвіж вяртала яе ў далёкае маленства, якое было ці не самым бясхмарным і шчаслівым...

У Нясвіж, дарэчы, усё яшчэ цягне не толькі пані Эльжбету, але і шматлікіх яе родзічаў. Час ад часу сюды наведваюцца Канстанцін і Мацей Радзівілы, праўда, яны ад Шыдлавецкай лініі. Мацееў дзед, да прыкладу, валодаў Паланечкай — вялікім маёнткам паблізу Нясвіжа (цяпер гэта Баранавіцкі раён), ёсць яшчэ ў Амерыцы Караль Радзівіл — ён ад самага пачатку не прэтэндаваў на замак, ёсць літаратарка Крысціна Радзівіл... Іх шмат па ўсім свеце. І з усімі, па магчымасці, цяперашнія нясвіжскія музейшчыкі стараюцца кантактаваць. Але найбольшы інтарэс да Нясвіжа выказваюць пані Эльжбета, Мацей і Канстанцін, а таксама Эльжбецін унук Аляксандр Тамашэўскі з Францыі. Тое лёгка тлумачыцца, бо Эльжбецін бацька — Альбрэхт Радзівіл — быў перадапошнім уладаром у Нясвіжы, яму належала 85 тысяч гектараў зямлі. Агулам жа на той час Радзівілы валодалі на Беларусі 320 тысячамі гектараў. Самым апошнім з ардынатаў замка быў Эльжбецін дзядзька — Леан, але ў 1939 годзе ўрад Польшчы скасаваў ардынацыю. З тае пары юрыдычным правапераемнікам нясвіжскіх уладанняў становіцца беларуская дзяржава.

Не юрыдычным правам кіраваліся некаторыя з нашчадкаў Радзівілаўскага роду, калі першапачаткова выказвалі незадаволенасць рэстаўрацыяй, а толькі гістарычнай праўдай. Хацелася ўзнавіць і захаваць тое, што было, а не тое, што напрыдумлялі... Напачатку крытыкі хапала, але паступова жарсці ўлегліся. Падчас аднаго з візітаў княгіня Эльжбета ўгледзела на гадзіннікавай вежы дах, падобны не то на цыбуліну, не то на макаўку... " Божа, што за ідыёцкая цыбуліна?! — вырвалася тады ў яе пры поглядзе на новы купал вежы. — Яе ж ніколі тут не было!"

Рэстаўратары тады даводзілі, што вежа ўзноўлена паводле архіўных даных — гістарычных інвентароў. Можа, яно і так, але ж інвентары былі рознымі: у XVI—XVII стагоддзях адны, а ў XIX — іншыя. Княгіня памятае замак, якім ён быў да 1939 года, і не толькі вежы, але і архітэктурныя дробязі, не кажучы пра інтэр'еры: і якая ляпніна была, і дзе якія каміны стаялі, і якія сцены ды столі аздоблены пазалотай...

Перад пачаткам рэстаўрацыі праводзіліся навуковыя даследаванні, але наколькі глыбокія і чаму спачатку было прынята арыентавацца на XVI стагоддзе — цяпер ужо ніхто не жадае ўспамінаць. Куды важней іншае, тое, што Рада па рэстаўрацыі прыняла-такі рашэнне трымацца інвентару больш позняга часу. І эксперты ЮНЕСКА далі ўрэшце вынікам рэстаўрацыі першай чаргі высокую адзнаку. Потым прыязджалі дырэктары музеяў з Кракава, Вроцлава, Варшавы, іншых гарадоў. Напачатку баяліся сюды ехаць, але ўбачанае ацанілі высока: першая частка адрэстаўраваных залаў (2008 год) прыемна ўразіла і якасцю зробленага, і максімальнай набліжанасцю да аўтэнтыкі. Цудоўны водгук адносна канцэпцыі музеефікацыі зрабіў прафесар Тадэвуш Бернатовіч, той самы чалавек, які ў свой час шмат парупіўся, каб Нясвіж з ягоным замкам стаў аб'ектам увагі камісіі ЮНЕСКА. І, нарэшце, Рэспубліканская навукова-метадычная рада (орган, які вышэй па статусе за Міністэрства культуры) прызнала памылковасць узвядзення вежы-"цыбуліны". Было прынята рашэнне ўсталяваць гадзіннікавую вежу ў тым жа стылі, што і цэнтральную ўваходную. Карацей, пані Эльжбета перамагла ўсіх...

Паміж тым рэстаўрацыя працягвалася. І вось — 2012 год...

## «Нясвіжскі замак цяпер — нумар адзін у краіне»

Розгалас данёс, што рэстаўрацыйныя работы ў замку практычна завершаны, што вясною маецца адкрыццё новых залаў, што каналы і валы па ўсёй акружнасці палацавага комплексу прыведзены ў належны парадак. Да ўсяго ў замкавай адміністрацыі нібыта вялікія планы на перспектыву — як у сэнсе небывалага прытоку турыстаў, так і ў сэнсе культурніцкіх мерапрыемстваў. Нясвіж жа цяпер культурная сталіца ўсяе краіны. Не марнуючы часу, спяшаюся туды...

Люты, сумёты, але сонейка па-веснавому ўжо лашчыць не толькі меднага арла на ўваходнай вежы... Перад тым як агледзець адноўленыя рэстаўратарамі залы, меўся высвеціць два пытанні, якія хвалююць многіх. Па-першае, ці завершана работа па рэстаўрацыі гадзіннікавай вежы згодна з апошнім рашэннем навукова-метадычнай Рады, па-другое, наколькі запоўнены новыя залы аўтэнтычнымі ці хаця б набліжанымі да іх радзівілаўскімі рэчамі — карцінамі, мэбляй, зброяй і ўсім астатнім. Паколькі дырэктар палацавага комплексу Сяргей Клімаў адсутнічаў, то гаворка вялася з ягоным намеснікам — Наталляй Пятроўнай Жарко...

— *Пакуль работы на вежы працягваюцца, але да пачатку адкрыцця другой чаргі палацавага комплексу яны будуць завершаны і вежа паўстане такой, якой яна выглядала пры канцы XIX — пачатку XX стагоддзя,* — запэўніла спадарыня Жарко. — *Заместа "цыбуліны" закрасуе купал, пакрыты медная дахоўкай... Такім чынам, і другая вежа набудзе той выгляд, які мела ў канцы XIX, а не XVI стагоддзя. Да слова кажучы, цяпер уся рэстаўрацыя вялася ў поўнай адпаведнасці з канцэпцыяй, якая арыентавана якраз на замкавую архітэктуру XIX стагоддзя... Можна сказаць, памылка будзе выпраўлена...*



**— А калі ўсё ж плануецца адкрыццё другой чаргі замкавага музея, новых залаў, экспазіцый?**

— *Нейкай канкрэтнай даты пакуль няма, бо гэта вырашае Міністэрства культуры,* — кажа спадарыня Жарко,— *але дакладна вядома, што ў другім квартале. Значыцца, вясной. Цяпер манціруем рознае абсталяванне, вядзём перамовы па закупцы некаторых рэчаў, да таго па асобным праекце рыхтуецца выставачная зала на 200 квадратных метраў, на яе выдаткаваны дадатковыя сродкі. Гэта будзе зала для перасоўных выстаў. Але асноўнае, што мы павінны падрыхтаваць да адкрыцця комплексу, — дык гэта новыя залы. Апроч інтэр'ерных экспазіцый кожная з іх ужо запоўнена — паводле апісанняў і старых фатаграфій — адмысловай мэбляй, карцінамі і г.д. Тут не ўсё так гладка, бо прыходзіцца некаторыя мастацкія каштоўнасці браць на дэпазіт з іншых музеяў, а гэта вымагае і часу, і сродкаў. У любым выпадку да адкрыцця другой чаргі комплексу залы будуць гатовыя для наведвання".*

**— Навукоўцы лічаць, што дубліраваць арыгіналы муляжамі па ўсім замку — зусім не выхад са становішча. Эксперты з камісіі ЮНЕСКА таксама стаяць на сваім: трэба расшукваць і набываць рэчы аўтэнтычныя ці вельмі набліжаныя да тых, якія былі ў валоданні Радзівілаў. Вось і пані Эльжбета, прынамсі, спадзяецца, што ўсё вы зробіце, як было насамрэч… Ці атрымаецца ўрэшце запоўніць амаль 30 памяшканняў сапраўды рарытэтамі, рэчамі высокамастацкімі, няхай сабе прадметамі ўтылітарнымі, але менавіта з маёмасці славутага магнацкага роду?**

— *Складанае пытанне,* — выказвае набалела-вынашанае Наталля Жарко, — *але трэба ў любым выпадку расшукваць усё, што магчыма, са страчанага. Калі нельга будзе напасці на сляды арыгіналаў, то лепш не копіі ствараць, а падбіраць рэчы таго ж часу, падобныя да радзівілаўскіх. Так мяркуюць многія эксперты. Таму музейныя работнікі хадзілі і прадаўжаюць хадзіць па антыкварных крамах і шукаюць рэчы з палаца. Дзе знайсці рарытэты? Некаторыя радзівілаўскія рэчы захоўваюцца ў прыватных калекцыях нясвіжцаў, але даказаць, што гэта сапраўды прадметы з замка — даволі цяжка. Напрыклад, у доме ксяндза Каласоўскага, былога пробашча тутэйшага касцёла Божага Цела, стаяла мэбля — скураны фатэль, сакрэтнік, віселі на сценах абразы, карціны XIX стагоддзя. Усе яны — прыватная ўласнасць, і гаспадар толькі сам можа падараваць свае каштоўнасці дзяржаве. А можа і не падараваць. Прасцей можна знайсці княжацкія рарытэты ў антыкварных крамах і набыць іх. Але яны дорага каштуюць. На рэстаўрацыю выдзяляюцца вялікія сумы, а на закуп прадметаў для інтэр'ера не заўсёды... У свой час Галіна Кандрацьева ў адной з антыкварных лавак у мінскім Траецкім прадмесці знайшла туалетны прыбор, на якім выбіта кляймо з радзівілаўскім гербам — тры паляўнічыя ражкі. Прадаўцы рарытэта запрасілі 12 тысяч долараў. Плаціць тады папросту не было чым. Супрацоўнікі запаведніка "Нясвіж" і непакоіліся, што, пакуль прыйдзе час паступлення на іх рахунак грошай, княжацкі рукамыйнік купіць нехта іншы...*

Пазалетась, ведаеце, нашымі супрацоўнікамі для аздаблення замка былі набыты ў антыкварных лаўках чатыры крэслы, два кандэлябры, кітайскія вазы, сталовы посуд — пераважна XIX стагоддзя. Праўда, гэта не рэчы з замка, а толькі падобныя па стылі да тых, што некалі ўпрыгожвалі залы рэзідэнцыі Радзівілаў. Але і тое добра, што паспелі...

**— Наталля Пятроўна, а чым парадуеце будучых наведвальнікаў, апроч музейных экспанатаў, што цяпер ладкуюцца ў экспазіцыю? Апроч саміх залаў, якія, думаю, уразяць самых патрабавальных беларусаў і замежных турыстаў?**

— *А хоць бы тым, што ёсцека зараз у нас свой невялікі гатэльчык эканом-класа, дзе могуць спыняцца турыстычныя групы. На сорак дзевяць месц. Так што просім... Дадайце сюды некалькі люксавых нумароў, якія не знадворку палаца, як узгаданы гатэль, а проста ў самім замку... А яшчэ побач — рэстаран, кафэ, сувенірныя крамы. Што ні кажыце, а Нясвіжскі замак цяпер — нумар адзін у краіне. Хачу верыць — адзін з самых вядомых у Еўропе. Ва ўсялякім разе — адзін з багацейшых на гісторыю, на гісторыю роднай Бацькаўшчыны... Варта, каб кожны беларус хоць аднойчы прыхінуўся да яе, пабачыў, памацаў рукамі артэфакты, угледзеўся ў смугу вякоў..*

Паколькі ў спадарыні Жарко набегла розных спраў, то не стаў яе дапытваць далей, а навастрыўся проста да Аляксея Будніка, загадчыка сектара "Палацавы ансамбль". Яшчэ раней мы дамовіліся, каб ён правёў мяне па залах, якія толькі што пакінулі рэстаўратары...

— Музеефікацыя пакуль яшчэ не завершана, хоць і ў заключнай стадыі, — адразу папярэдзіў Аляксей Міхайлавіч, — затое і Камінная зала, і Гетманская, і Залатая, і Паляўнічая выглядаюць гэтаксама, як выглядалі на пачатку мінулага стагоддзя — у адпаведнасці з тым, якая і для чаго прызначалася. Праўда, пакуль нестае аўтэнтычнай мэблі, некаторых рэчаў, якія — з гледзішча дакументаў і па апісанні — тут знаходзіліся. Але і таго дастаткова, каб уразіцца хараством убачанага і ацаніць працу рэстаўратараў. Галоўнае, вытрыманы стыль эпохі, шмат якія інтэр'ерныя рарытэты цалкам захаваны, а якія і адноўлены, то з максімальнай ашчаднасцю, далікатна. І гэта нягледзячы на тое, што з сорак пятага года і да пачатку рэстаўрацыйных работ у замку месціўся санаторый... Усё было не проста затаптана, але затынкавана, зафарбавана, замуравана...

Пераходзячы з залы ў залу, міжволі шукаў вачыма тое, што і без напаміну гіда магло сказаць за сябе: гэта радзівілаўскае, сапраўднае, ад веку дайшло... Але з мэбліроўкі такіх артэфактаў — кінулася ў вочы адразу — зусім не багата. Калі канапа ці пазалочанае люстра — то толькі прыблізна тае эпохі. Затое сценавыя панэлі, столь, партрэтная галерэя (але не ўся) — цалкам, ці амаль цалкам, быццам перамясціліся ў часе і проста наноў занялі свае звыклае месца. Амаль усе каміны і печы — дэкаратыўныя, хоць і аздоблены кафлямі вышэйшага гатунку, таго ж колеру і малюнку. Цяжка ўсведамляць, што гэта свайго роду муляжы, але факт застаецца фактам: печы без дымаходаў (яны замураваны за савецкім часам) і ёсць падробка, хай сабе і высокамастацкая. А вось ляпніна ва ўсіх чатырох залах — родная. Ды настолькі густоўная, прыгожая — вачэй не адарваць. Захавалася, мусіць, толькі таму, што на вышыні — рукамі не дацягнешся... Рэстаўратарам заставалася адно: там-сям падправіць ды пакрыць яе дзе спецыяльнымі бяліламі, дзе пазалотай.

І ўсё ж у адной зале напаткаў на сапраўдную радзівілаўскую рэч. Гэта старадаўні більярдны стол... Сотні адпачываючых у санаторыі, калі не тысячы, ганялі на ім шары. І нават не падазравалі, што за гэтым сталом бавілі час не толькі князі і князёўны, але і шматлікія іх госці. Напрыклад, той жа Ёзаф Пілсудскі, які наведаў замак у 1926 годзе і якога адзін з Радзівілаў прасіў "закілзаць" беларускага мужыка-халопа... А можа, і маладая Эльжбета брала ў рукі більярдны кій, ці нават сам Станіслаў Аўгуст Панятоўскі... Цікава, як уроблены той більярдны стол: замест звыклых лузаў — скураныя кішэнькі па кутах, але так сканструяваны більярд, што ад усіх лузаў забіты шар трапляў у адзін і той жа кут...

У Паляўнічай зале мноства ўсялякіх трафеяў — скуры і чучалы мядзведзя, рогі аленяў, ласёў... Чаго тут толькі няма! І, натуральна, паляўнічая зброя розных часоў... Мне падалося, што якраз гэтая зала цалкам, на ўсе сто, супадае з той, што была за часам, калі тут жыла Эльжбета Радзівіл з родзічамі-сваякамі. Ва ўсялякім разе цяжка было знайсці розніцу паміж убачаным на фатаграфіі пачатку XX стагоддзя і тым, што было наяве.

Залатая зала ўразіла не столькі сваёй параднасцю, колькі багатай пазалотай на столі і сценах. Хаця, калі ўдумацца, адно пасавала да другога, робячы інтэр'ер невыказна шыкоўным, па-княжацку выкшталцоным. Цікава, што толькі ў гэтай зале напоўніцу вылучаліся залачоныя гербы не толькі Радзівілаў, але і Вішнявецкіх, прычым у роўнай ступені... Наведвальнікам будзе што расказаць пра стасункі абодвух магнацкіх радоў...

Тым часам мы выйшлі на парадную лесвіцу, якая вяла ўніз, да першага паверху. Якраз на гэтай лесвіцы Радзівілы сустракалі гасцей. Яна — каваная з латуні — захавалася цалкам, хоць і была рэстаўравана ў Мінску. Пра гэтую лесвіцу, роўна як і пра захаваныя па яе баках фрэскі на сценах, а таксама пра выяву Леды над галавой можна доўга баяць, але пакіну гэта экскурсаводам, якія неўзабаве прымуць у замку першых наведвальнікаў. Трэба і меру ведаць. Дзякую Аляксею Міхайлавічу за цікавы аповед і спускаюся на грэшную зямлю па той самай лесвіцы, па якой тупалі радзівілаўскія ножкі...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

ШОППИНГ

# Ты — мне, я — тебе,

## *или Как украинцы помогают выживать белорусам*

*Украинское село Заболотье — первое по ту стороны границы после белорусского Хотислава и самое популярное среди жителей 300-тысячного Бреста. Ему по посещаемости могут позавидовать Минск, Москва, Киев и Санкт-Петербург, так как дизель-поезда "Брест—Заболотье" курсируют пять раз в сутки — с раннего утра до позднего вечера.*

*Корреспондент "Народной Воли" поехал туда вместе с украинскими и белорусскими "челноками" и разбирался, что и почем.*

Особенность Заболотья в том, что там находится самый дешевый рынок продовольствия и промтоваров, до которого рукой подать: всего 67 км от города над Бугом. А это всего в часе—другом езды по железной дороге, что обходится пассажиру в оба конца всего в 7300 рублей. Самый удобный — первый дизель-поезд, который отправляется в 7.03 утра и на который старается сесть большинство наших и украинских "челноков", затаренных под завязку молочной продукцией. Они успевают отправиться в обратный путь в 12.18.



Что пользуется в Заболотье спросом, можно увидеть сразу за станцией, где, раскрыв багажники своих авто, кучкуются украинские перекупщики. Они скупают литровые пакеты молока и кефира, пачки масла, банки сгущенки и даже пачки овсяных хлопьев "Экстра" Новобелицкого комбината хлебопродуктов. Тут же валютчики, не боясь никакой милиции, предлагают обменять белорусские рубли по курсу 1000 за 0,95 гривны, то есть почти один к одному (тысяча рублей почти равна одной гривне). Приходится удивляться, как в Украине ухитрились обуздать доллар: как и год назад, его тут держат на уровне 1:8 гривен.



А в это время пакеты молока и кефира уходят по 3,5 гривны, пачки масла и банки сгущенки — по 10,5, а овсянка — по 6—6,5 гривны. Если сравнить наши цены с украинскими, то навар получается хилый — от одной до двух гривен за одну единицу. Поэтому везут и сдают десятками пакеты, пачки и банки, чтобы за одну поездку заработать хоть на хлеб с маслом. При этом действует простое правило: чем дешевле купишь в Бресте, тем выгоднее продашь там даже по той же закупочной цене.

Теперь понимаешь, почему в фирменных магазинах Кобринского маслосырзавода и Березовского сыродельного комбината, что расположены в брестском "Центруме", литровые тетрапаки и пленочные пакеты молока (по 2950 и 2300 рублей) покупатели расхватывают уже к обеду. А привозят ведь немало: 21 февраля соответственно 240 и 75, 22-го — 180 и 75. Сейчас, когда пошел ненормированный вывоз, ситуация может осложниться. Дефицит молока и кефира в брестских магазинах обострится. А продать будет сложнее.

Во всяком случае уже к 12.00 в субботу украинцы в Заболотье настолько накупились белорусских продуктов, что "челноки", прибывшие следующим дизель-поездом, выстроились в два ряда на центральной улице. Я услышал, как одна женщина сетовала: *"Хоть бы по себестоимости продать, чтобы не везти обратно".*

В свою очередь, там на рынке можно дешевле, чем у нас, закупить растительное масло, конфеты и печенье, колбасу, куриные окорочка, сало...

К примеру, окорочка у них стоят по 19,5 гривны за килограмм, в то время как у нас — на треть выше. Но их, как и сырое сало и колбасу, нельзя ввозить в Беларусь. Можно только заводской готовности, чтобы было видно, кто производитель. Здесь же , в Заболотье, можно купить молотый кофе за 7 гривен, чай в пакетиках — за 3,5.

Из промышленной группы дешевле байки, куртки, джинсы, джемперы.

Единственно, в чем украинцы уступают прежние позиции, так это цены на спиртное. Даже самая простая, прежде дешевая водка там дошла до 26 гривен за поллитра, а литровый пакет вина — до 17—18. Но это не наши плодовые "бырла", а ароматное натуральное виноградное розовое вино типа "Приморского", изготовленное где-нибудь в Жовтневском районе Николаевщины.

В дизель-поезд, который отправлялся в обратный путь в 12.18, брестчане заходили загруженными — каждый в соответствии с содержимым своего кошелька. К слову, поток торговых туристов в последнее время схлынул, в тех же поездах люди едут сидя, а не стоят, как было в прошлом году.

А вот продавцы в Украине показались мне доброжелательнее, чем в нашей стороне. У них, кажется, язык не поворачивается сказать белорусским покупателям что-то вроде: "Вы что, сами не видите, что написано на ценнике?"

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

*Брест.*

КОРАТКА

## Выдадзена кніга з невядомымі творамі Васіля Быкава

*Яе падрыхтаваў даследчык і журналіст Сяргей Шапран паводле адшуканага ў Гродне архіва пісьменніка.*

Кніга "Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў" выйшла ў серыі "Гарадзенская бібліятэка". У яе ўвайшлі невядомыя творы, нататнікі пісьменніка за 1957—1972 гады.

## Жывыя матылькі «акупавалі» Дом-музей І з'езда РСДРП

*Амаль да канца красавіка там будзе працаваць выстава экзатычных матылькоў з усяго свету.*

На незвычайнай выставе прадставяць некалькі дзясяткаў відаў крылатых прыгажунь з Паўднёва-Усходняй Азіі, Афрыкі, Аўстраліі, Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі. Тут жа можна будзе даведацца аб розных легендах і паданнях, звязаных з "жывымі кветкамі". У зале створаць адмысловы мікраклімат для гэтых далікатных стварэнняў, якіх у коканах будуць пастаянна падвозіць у Мінск з Краснадарскага краю (там знаходзіцца спецыяльная ферма).

## Віктара Шалкевіча запрасілі ў польскі мюзікл

*Беларускі бард і акцёр Віктар Шалкевіч выканае галоўную ролю ў мюзікле, прысвечаным Янушу Корчаку. Гэтая пастаноўка рыхтуецца на сцэне Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку ў абвешчаны ў Польшчы Год Корчака.*

Выбар беларуса для галоўнай ролі тлумачыцца яго незвычайнай харызмай.

— *Апрача таго, што ён фантастычны акцёр, што выдатна спявае, ён вельмі інтэлігентны, эфектны, мае харызму: калі выходзіць на сцэну, то ён існуе. Дастаткова яму даць бараду, і ён выглядае, як Корчак,* — адзначыў у эфіры Радыё "Рацыя" дырэктар філармоніі Рабэрта Скальмоўскі.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ИЗ ЗАПИСОК РЕЦЕНЗЕНТА



Семен БУКЧИН

# Трагедия истории одного города

## Салтыков-Щедрин на сцене Государственного театра кукол

Скажите откровенно, читатель, когда вы последний раз были в кукольном театре? Я вот, признаться, и не упомню. Пожалуй, в какие-то давние школьные годы, а следовательно, более полувека назад. Нет, кое-что разными окольными путями я узнавал о кукольном театре: например, что актеры уже не прячутся, а показываются рядом с куклами, что они могут и без кукол выходить на сцену... Ну и вообще знал кое-что о том, что кукольное искусство не застыло со времен Петрушки, а сильно даже двинулось вперед, так сказать, в ногу со временем.

И вот предоставилась возможность убедиться, что называется, воочию. Позвали на спектакль **"История одного города"** в Государственном театре кукол Беларуси. Щедрин у нас, на современной белорусской сцене? Да еще со своим городом Глуповым? Это не могло не интриговать. Тем более что я вообще не уверен, проходят ли нынче Щедрина в белорусской школе. Автор неудобный, многозначительный, с сильными аллюзиями, можно сказать, вечного характера. Не сокращен ли он в школьной программе, с учетом государственного курса на скорейшее получение строителей, рабочих разных специальностей и прочих представителей "неразмышляющих", но весьма дефицитных ныне профессий?

Сцена, загороженная переплетениями из старых досок, с редкими указателями расстояний до Москвы, Рязани и почему-то Константинополя, сразу погружала в мир одичалого захолустья. Но оказалось, что в этом самом захолустье живут люди довольно-таки своеобразные, любящие порассуждать на разные темы и даже ищущие справедливости, но вместе с тем готовые и всякой несправедливости найти оправдание.

Постановщик спектакля молодой режиссер **Алексей Янушкевич** решил не запутывать зрителя сменой глуповских градоначальников — хотя сами по себе образы Брудастого ("Органчика"), Угрюм-Бурчеева, Фердыщенко, Бородавкина, Беневоленского, Прыща и прочих у Щедрина весьма колоритны. По замыслу режиссера, достаточно и одного глуповского градоначальника (его блестяще играет **Александр Васько**), который совмещал бы в себе черты всех прочих. А ведь и в самом деле — глуповцам все равно, кто там наверху. Вот и сидящий в сторонке на сцене их историк бесстрастно свидетельствует: *"Беспрекословно подчиняются капризам истории и не представляют никаких данных, по которым можно было бы судить о степени их зрелости в смысле самоуправления: они мечутся из стороны в сторону, без всякого плана, как бы гонимые безотчетным страхом..."*

При всем при этом глуповцы не так просты, как может показаться спервоначалу. Они уверены: "Нас, брат, и уколупнуть негде!" Они хитрющие люди, глуповцы, так приспособились, что их за здорово живешь не возьмешь. Они тебе что хочешь оправдают: и необходимость сеять горчицу вместо хлеба, и бунтовать, стоя на коленях, а потом прятаться. Это уж самое крайнее проявление глуповской строптивости — спрятаться, то самое *хавайся ў бульбу!* Вот это они, эти смешные, лохматые и даже в чем-то милые человечки, прекрасно умеют.

И оказывается, что они уже века так живут. О чем свидетельствует репродуктор, вещающий о росте надоев и повсеместном участии женщин в общественной жизни. И сам градоначальник оказывается большим любителем разных современных игрушек, в том числе обожает одну пушечку, так и гладит, так и гладит ее, а дуло-то в публику меж тем направляет. А публика наша ушлая, смеется, понимает, что к чему. Разбирается и в косноязычии незабвенного Леонида Ильича, прорывающемся у градоначальника, и с еще большим восторгом слышит у него же родные фрикативное "г" и твердое "ч" в сочетании с призывом к неизменному "парадку". А выборы, выборы местные в Глупове — это ж полная комедия, как бюллетенчик красный от одного к другому под строгим надзором до самой урны передается.

А между тем, ежели на серьезе, то в Глупове и не до смеха. Не зря в подзаголовке названия спектакля стоит: "Следственные материалы по делу, запрещенному цензурой".

Что за дело? Да в том-то и суть, что никто не знает! Она, суть-то, то ли в голоде, вызванном одной колдуньей, то ли в том, что градоначальник живет с чужой женой. Нет, вообще-то глуповцы догадываются, что "жить без утеснения лучше, чем с утеснением". А с другой стороны, они как себя понимают? А вот так и говорят о себе: *"Мы люди привышные, мы претерпеть все могим... Ежели нас теперича всех в кучу сложить и с четырех концов запалить — мы и тогда противного слова не молвим! Ты думаешь, начальство спит? Нет, брат, оно одним глазком дремлет, а другим, поди, уж где видит!"*

Глуповцы, может быть, даже способны своего рода "плошчу" организовать. Ну не совсем "плошчу", поскольку сидят они на своих струхлелых досках, как на шестках, и все возмущаются, возмущаются, все чем-то недовольны. И вот вроде ихняя "плошча" — отрядили-таки ходоком за правду старца одного, Евсеича (правдолюбца, может, и не случайно схожего внешне со Львом Толстым). Ну того, ясное дело, сразу арестовали, ведут два престарелых инвалида. А что же глуповцы? О, они по-прежнему верны своей житейской мудрости. Они расступаются и говорят: *"Небось, Евсеич, небось! С правдой тебе везде будет жить хорошо!"*

Ну и повис Евсеич в итоге "укрыжованный" на этих самых струхлелых досках. На чем и кончилась борьба глуповцев против утеснений.

Спектакль длится всего час. И зрителю остается, придя домой, взять том Щедрина и узнать, что после казни Евсеича началось отступничество былых бунтарей, пошли аресты массовые, и народ стал нести один на другого невесть что. В общем, такая каша завинтилась...

Но, главное, что глуповцы показали себя начальстволюбивым народом. Только вот не нужно слишком часто показываться на глаза градоначальнику. От их голодного и тупого вида начальник свирепеет. А сами глуповцы впадают в животный ужас. И все-таки, когда один из градоначальников, Угрюм-Бурчеев, приказал запрудить реку, они поняли, что пришел край. *"Грудь захлестывало кровью, дыхание занимало, лица судорожно искривляло гневом при воспоминании о бесславном идиоте, который с топором в руке пришел неведомо отколь и с неисповедимой наглостью изрек смертный приговор прошедшему, настоящему и будущему".*

Так пишет Щедрин о том, что осталось за пределами спектакля. Но тот, кого разбудит спектакль, может узнать из книги, что глуповцы все-таки поняли, что градоначальник — идиот. Убеждение в этом росло у них с каждым днем. Да, они видели, что в идиоте таится какая-то сила, которая цепенит умы. Но она уже сделалась невыносимою. И даже счастье, говорит Щедрин, казалось унизительным и обидным под властью этого идиота, который единолично сокрушил целую массу мыслящих существ.

И тогда каждая минута стала казаться удобной для освобождения и вместе с тем преждевременной и даже обреченной. В этом трагедия современного Глупова. Трагедия истории одного города, вырвавшаяся за пределы царской России.

Глуповское государство началось с грозного градоначальнического окрика: "Запорю!" Искусство управления глуповцами с тех пор и состоит, собственно, лишь в разнообразии форм этого сечения: одни градоначальники секут глуповцев (разгоняют с помощью квартальных надзирателей, ОМОНа, сажают в кутузки, участки, в СИЗО или "американки" — выбирай любую эпоху) без всяких объяснений, другие объясняют порку "требованиями цивилизации", а третьи добиваются, чтоб сами обыватели желали быть посеченными. В свою очередь в глуповской массе изменяются лишь формы покорности. В первом случае обыватели трепещут бессознательно, во втором — с сознанием собственной пользы, ну а в третьем — возвышаются до трепета, исполненного невероятного доверия к властям. Да, поистине неиссякаемо народное терпение и вера во власть, которая всех осчастливит, — говорит нам сегодня Щедрин. Когда по выходе в свет "Истории одного города" критика стала упрекать сатирика в глумлении над народом, в высокомерном отношении к нему, Щедрин отвечал: *"Рецензент мой не отличает народа исторического, то есть действующего на поприще истории, от народа как воплотителя идеи демократизма. Первый оценивается и приобретает сочувствие по мере дел своих. Если он производит Бородавкиных и Угрюм-Бурчеевых, то о сочувствии не может быть и речи... Что же касается "народа" в смысле второго определения, то этому народу нельзя не сочувствовать уже по тому одному, что в нем заключается начало и конец всякой индивидуальной деятельности".*

***

В кукольном театре играют трагедию общества, народа, нации. Впечатляющая парадоксальность искусства здесь как раз в том и состоит, что это только похожие на людей нелепые куклы, жалкие, но вместе с тем такие простодушные и откровенно жаждущие добра и справедливости и не знающие, как их достичь, рассказывают нам эту трагедию. О том, как они пытаются превратиться в людей. И как их снова заставляют быть только бессловесными тварями. Причем заставляют те же Угрюм-Бурчеевы и Бородавкины, которых он, народ, сам же и производит.

Впечатляет лаконизм метафор, использованных в спектакле, пластика его образов. Наконец, в самом обращении сегодняшнего театра к Щедрину, к сатире, тяготеющей к острому памфлету и вместе с тем не сбивающейся на плоскую карикатуру, свидетельство не только отменного вкуса постановщиков спектакля, но и их, безусловно, вызывающей уважение гражданской позиции.

АБІТУРЫЕНТ-2012

## Мінімальны бал на ЦТ будзе 7?

*Такі прагноз зрабіў міністр адукацыі Сяргей Маскевіч.*

Увядзенне мінімальнага бала на ЦТ — адзінае новаўвядзенне цяперашняй уступнай кампаніі, якая стартавала ў Беларусі 5 сакавіка.

Пра тое, што наспела неабходнасць паставіць бар'ер для абітурыентаў, якія паказваюць вельмі нізкія веды на ЦТ, апошнія год-два казалі і рэктары вядучых ВНУ краіны, і чыноўнікі Міністэрства Мінадукацыі. Таму што сітуацыя часам выглядала проста трагічнай: студэнтамі-вочнікамі станавіліся ўчарашнія школьнікі, якія паказвалі на тэсціраванні вынікі ў 2, 3 балы. Прычым часам па профільных прадметах.

Які будзе мінімальны бал, пакуль вырашаецца. Але падчас online-канферэнцыі, якая днямі прайшла на сайце БЕЛТА, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў, што, магчыма, гэты бал будзе не ніжэй за 7.

*— У бліжэйшы час у рамках сваёй кампетэнцыі Мінадукацыі прапануе ўсім зацікаўленым на абмеркаванне праект дакумента, які ўстанаўлівае ўзровень мінімальнага станоўчага бала на ЦТ 2012 года па ўсіх прадметах для паступлення ў ВНУ,* — адзначыў міністр. — *Магчыма, ён будзе не ніжэй за 7 балаў. У любым выпадку ў бліжэйшы час яшчэ да пачатку правядзення ЦТ гэтае пытанне будзе адрэгулявана. Гэта азначае, што ніжэй за гэты ўстаноўлены бал абітурыент не зможа паступаць у ВНУ. Але пры гэтым ён зможа скарыстацца сваім правам для паступлення ў сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы і ПТВ. Такая мера дасць магчымасць паступаць у ВНУ толькі падрыхтаваным абітурыентам.*

Нагадаем, што, калі Беларусь перайшла на такую мадэль уступных экзаменаў, як цэнтралізаванае тэсціраванне, мінімальны бал на ЦТ складаў 20. Пазней ён быў зніжаны да 8, а потым і зусім адменены.

Дарэчы, па словах міністра, бал профільнага прадмета пры паступленні ў ВНУ падвойвацца не будзе. Такая прапанова, як вядома, таксама разглядалася, але, як высветлілася, ад яе вырашылі адмовіцца.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЭЦЭПТ

## Доля айчынных лякарств дасягне 30 працэнтаў

Такія планы даведзены да беларускіх фармвытворцаў.

У 2012 годзе ў Беларусі плануецца асвоіць вытворчасць 92 найменняў новых лекавых сродкаў. Упор будзе зроблены на вытворчасць імпартаёмістай фармпрадукцыі. Плануецца пашырыць лінейку прэпаратаў для лячэння сардэчна-сасудзістых, анкалагічных захворванняў. Так, у гэтым годзе на РУП "Белмедпрэпараты" будзе адкрыты цэх па выпуску проціпухлінных прэпаратаў, адзначыў міністр аховы здароўя **Васіль Жарко.**

БЛІЦ



*На мінулым тыдні ў Слоніме дэмантавалі помнік Леніну — яго прыбралі са згоды аддзела архітэктуры, культуры і ідэалогіі мясцовага выканкама.*

*Сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што далейшы лёс бюста будзе вырашаць улада.*

*У Беларусі стаяць помнікі не толькі Леніну, але і іншым правадырам бальшавіцкага рэжыму. Але, на жаль, не ўшанавана памяць нацыянальных змагароў. Таму "Народная Воля" вырашыла пацікавіцца:*

# Каму з беларускіх герояў вы паставілі б помнік, а чый адвезлі б на сметнік гісторыі?

### Вінцук ВЯЧОРКА, палітык:

— Адразу пачну са сметніка. Я думаю, нашы паўночныя суседзі мелі рацыю, зрабіўшы парк таталітарнай скульптуры — нельга забывацца на таталітарную і каланіяльную эпоху. Такі парк, на мой погляд, можна стварыць і ў нас, каб было куды пазвозіць усіх Ленінаў і Дзяржынскіх. І вадзіць туды дзяцей і ўнукаў, паказваць і расказваць, каб не паўтарыліся больш ніколі тыя жахі, якія былі ў гісторыі.

Што да таго, каму няма помнікаў... У Мінску няма помніка Кастусю Каліноўскаму. Ды велізарнаму мноству нашых выдатных дзеячаў і герояў няма помнікаў! Напрыклад, у нас няма ніводнага помніка айцам-заснавальнікам Беларускай Народнай Рэспублікі, без якіх не было б цяперашняй Беларусі.

### Наталля СЛІЖ, гісторык:

— Як гісторык я помнікі паставіла б вялікаму князю літоўскаму Стэфану Баторыю, прадстаўніку старажытнага магнацкага роду Беларусі і Літвы, таленавітаму вялікалітоўскаму палкаводцу XVII стагоддзя Яну Каралю Хадкевічу, вялікай княгіне літоўскай, другой жонцы Жыгімонта І Старога, маці Жыгімонта ІІ Аўгуста Боне Сфорцы. Адназначна на выкіданне — усе савецкія помнікі: Леніну, Сталіну, Дзяржынскаму, з расійскіх акупантаў — Сувораву.

### Наста ПАЛАЖАНКА, намесніца старшыні зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі «Малады фронт»:

— Зянону Пазьняку я паставіла б манумент пры жыцці, а ўсе помнікі Леніну выкінула б...

### Антон АСТАПОВІЧ, беларускі гісторык-этнолаг і культуролаг, старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры:

— Гэта вельмі тонкая тэма. І я, шчыра кажучы, шашкай не размахваў бы: маўляў, помнік гэтаму прыбраць і гэтаму таксама. Вось уявіце сабе: у Любані чатыры гады таму выканкам захацеў дэмантаваць помнік Леніну. І ведаеце, што? Звыш 50 лістоў пайшло ва ўсе інстанцыі ад жыхароў Любані — на іхнюю думку, гэты помнік дэмантаваць нельга. Унікальная сітуацыя: мясцовая ўлада хоча зрабіць пазітыўны крок, а частка людзей гэтаму перашкаджае!

Але ўсё роўна трэба ставіць пытанне аб тым, што помнікі пэўным асобам трэба дэмантаваць — асабліва тым, хто адыграў адмоўную ролю ў нашай гісторыі. Я заўсёды гавару, што дэмантаваў бы помнікі ўсім савецкім дзеячам. І пакінуў бы толькі адзін — помнік Леніна побач з Домам урада. Бо іншую такую настолькі ўдалую кампазіцыю, архітэктурны ансамбль побач з Домам урада знайсці будзе цяжка. І як чалавек, які змагаецца за нармальныя падыходы да спадчыны, гэты помнік я пакінуў бы.

А паставіць помнікі шмат каму можна. На мой погляд, павінны быць ушанаваны ўсе нармальныя дзяржаўныя дзеячы, якія працавалі на развіццё беларускай дзяржаўнасці — Усяслаў, Леў Сапега і іншыя.

### Вячаслаў ХАРАНЕКА, шматразовы рэкардсмен свету па гіравым спорце:

— Нашаму лётчыку, першаму герою Беларусі падпалкоўніку Уладзіміру Карвату — абавязкова! Яшчэ Пятру Машэраву...

А чые помнікі на сметніцу?.. Нават і не адкажу адразу, трэба падумаць...

### Вадзім ГІГІН, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка»:

— У нас, здаецца, усім паставілі ўжо помнікі... Хаця я б паставіў вялікі і светлы помнік (а можа, нават і не адзін) Пятру Міронавічу Машэраву. Гэты чалавек шмат зрабіў для Беларусі. А што тычыцца сметніка... Не ведаю, якія помнікі можна было б прыбраць — усе, здаецца, выверaныя. Нават помнік Леніну на плошчы Незалежнасці — гэта ўжо архітэктурны шэдэўр. І ўвогуле, я не прыхільнік таго, каб нешта выкідваць на сметнік...

### Сяржук БАХУН, сакратар Цэнтра падтрымкі Чарнобыльскіх ініцыятыў:

— На сметнік гісторыі адназначна адправіў бы Леніна. А помнік паставіў бы Кастусю Каліноўскаму. І яшчэ князю Вітаўту.

### Славамір АДАМОВІЧ, паэт:

— Паставіў бы калектыўны помнік тым 30 з нечым дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусі 12-га склікання, дзякуючы якім і існуе сённяшняя Беларусь. Я нават прыкладна ўяўляю, як ён мог бы выглядаць: Зянон Пазьняк са сцягам у каменных руках, астатнія трымаюць Канстытуцыю, Дэкларацыю правоў чалавека...

### Уладзімір СЛАБОДЧЫКАЎ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, загадчык кафедры скульптуры Акадэміі мастацтваў:

— Я не хацеў бы зносіць помнікі — гэта справа не зусім прыемная. Што паставілі — няхай ужо і будзе. Дарэчы, я ў Італіі бачыў помнік Мусаліні, яшчэ даваенны — стаіць, і ніхто не кажа пра тое, што яго трэба зносіць.

Іншая справа, што ў нас, вядома ж, не хапае помнікаў нашым нацыянальным дзеячам. І таму ж Каліноўскаму абавязкова паставіў бы помнік і Касцюшку. А колькі мастакоў, выхадцаў з Беларусі, якія праславілі не толькі беларускую, але і сусветную культуру! Той жа Хруцкі, Суцін, Малевіч і іншыя.

На мой погляд, лепш ставіць помнікі, а не прыбіраць іх. Прыбіраючы помнікі, мы перарываем сувязь паміж мінулым і будучыняй.

**Марына КОКТЫШ.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Не па крыві роднасць...

*У фермера Юрыя Карпіловіча і графа Юрыя Гутэн-Чапскага аднолькавасць не адно імёнаў: абодвух лучыць (і праз паўтара стагоддзі) любасць да зямлі, на якой некалі жыў граф і на якой зараз гаспадарыць ягоны паслядоўнік-нашчадак — не па крыві і тытулах нашчадак, а па захопленасці справай усяго свайго жыцця.*

### Крыху мінуўшчыны...

Графская сяліба Гутэн-Чапскіх у Прылуках (пад Мінскам) вядома з Інвентароў 1651-га і 1772 гадоў. Тут існаваў праваслаўны манастыр, пабудаваны ў 1635 годзе Ганнай Тышкевіч з благаславення кіеўскага мітрапаліта Пётра Магілы.

У 1872 годзе Прылукі купляе граф Эмерык Гутэн-Чапскі, але праз 14 гадоў палац часткова згарэў. І тады ў палац, абноўлены *"па ўзоры старога"*, пераязджае малады граф Юрый Чапскі, які перад тым ажаніўся з Юзэфай Каралінай, дачкой гофмайстра аўстрыйскага імператарскага двара. Юрый Чапскі ўзначальваў таварыствы сельскай гаспадаркі Мінскай губерні і Чырвонага Крыжа. Сама ж сяліба з палацам стала ягонай уласнасцю недзе ў 1894 годзе, калі бацька Эмерык наважыўся перасяліцца ў Кракаў. Пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе нашчадкі ўжо самога Юрыя перабраліся спачатку ў Польшчу, пасля ў Рым... Цікава яшчэ, што сын Юрыя Эмерык (названы ў гонар дзеда) падчас Другой сусветнай вайны змагаўся з нямецкімі акупантамі ў Францыі, у шэрагах Супраціўлення, быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна, вызваляў Парыж... І гэта ён — пры канцы 80-х гадоў — падараваў Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь гравюры з выявамі Мінска, зробленыя яшчэ ў 40-я гады XIX стагоддзя...

Далейшая гісторыя Прылуцкай сялібы, палаца, парку і ўсяго астатняга добра вядомая: палац цудам захаваўся, парк страшэнна запушчаны і здзічэлы, на зямлі гаспадарылі калгасы і саўгасы... З былога гаспадарчага графскага комплексу амаль нічога не засталося, хіба што будынак канюшні і надворныя пабудовы, якія рэстаўруюцца праз пень-калоду...

### На новы-стары лад...

За плячыма Юрыя Карпіловіча дзве вышэйшыя адукацыі. Ён механік і эканаміст, але галоўным сваім універсітэтам лічыць зямельную справу — земляробчую. Прыкіпеў да яе 12 год таму, калі перабраўся на былыя землі Чапскіх і пачаў займацца фермерствам. *"116 гектараў зямлі ў пажыццёвае карыстанне — гэта кропля ад таго, чым валодалі Чапскія, але і тая зямелька, што ёсць, вымагае ўсіх сілаў,* — кажа ён. — *Нягожа, каб я гаспадарыў горш за былых гаспадароў. А яны ведалі толк і ў паляводстве, і ў жывёлагадоўлі, нездарма мясцовая шляхта абрала Юрыя на пасаду старшыні Таварыства сельскай гаспадаркі ўсяе губерні. От і вяду рэй на зямлі па прыкладзе графа..."*

Кажуць, гісторыя — не абавязкова ў дачыненні дзяржаў ці там падзей гістарычных — мае ўласцівасць паўтарацца альбо кружэліць па спіралі. Міжволі пракладзеш паралель, згледзеўшы прыкмету новага часу — калі лепшае з мінулага знаходзіць трывалы адбітак у дні сённяшнім. Граф Юрый Чапскі ўзначальваў Таварыства сельскай гаспадаркі, і Юрый Карпіловіч узначальвае таварыства фермераў Мінскага раёна. Той вёў гаспадарства на ўласнай зямлі — і гэты таксама... Граф практыкаваў шматукладнае вядзенне справы, і фермер таксама... Як і граф, Юрый Карпіловіч пераймае ўсё лепшае і перадавое, што ёсць не толькі ва ўласнай краіне, але і ў Еўропе...

Цяпер, праз 12 гадоў, фермер Карпіловіч трывала стаіць на зямлі. Але як ён таго дамогся? Ці толькі днём сённяшнім жыве гэты чалавек? І навошта ў ягонай гаспадарцы, якая спецыялізуецца ў асноўным на монакультуры, гэтулькі рознай жыўнасці — польскіх гусей, шатландскіх коняў, галандскіх поняў, в'етнамскіх свіней, французскіх курэй?..

Пра ўсё гэта, роўна як і пра многае іншае, — аповед у наступнай публікацыі, якая неўзабаве з'явіцца ў "Народнай Волі".

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



